# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 34 (1580) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 24 ЖНІЎНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл



„Бацькаўшчына“ крочыць праз Белавежскую пушчу.

## Бацькаўшчына 3

У днях 15-21 ліпеня беларускія студэнты правялі рэйд „Бацькаўшчына-3“. Траса яго сёлета вяла з Гайнаўкі ў Гарадок, а кіравалі ім Валянцін Сельвясюк ды Лёнік Тарасэвіч (ён жа — ініцыятар і арганізатар першай „Бацькаўшчыны“). Паход сваім размахам перавысіў усе ранейшыя такога тыпу мерапрыемствы беларускіх студэнтаў, гэтак прынамсі мне, як удзельніку, здаецца і таго. думаю, хацелі арганізатары.

Рэйд пачаўся ў Гайнаўцы, куды з'ехаліся ўдзельнікі. Кожны з іх атрымаў значок рэйду. Карыстаючы з нагоды, што ў Гайнаўку было склікана пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ, сустрэліся мы з Праўленнем Таварыства. Спатканне моладзі з кіраўніцтвам ГП прайшло ў атмасферы даволі спакойнай, як на першае таго тыпу спатканне, хаця напружанасць была відавочнай, ды не абыйшлося ўсётакі без узаемных закідаў і засцярог. Сустрэча моладзі з Праўленнем Таварыства гістарычная, між іншым і таму, што прадаваўся на ёй пяты, юбілейны нумар „Сустрэч“, які Яўген Вапа прывёз ноччу проста з Варшавы з друку. Магчыма, што пасля гэтага факту зменяцца адносіны ГП да студэнтаў. Пабачым.

У сераду раніцай усе мы наведалі будынкі, у якіх мае быць створаны Беларускі музей. Тое што мы пачулі і пабачылі — гэта даволі імглістая справа. Вядома, беларуская справа — значыць: цяжкая справа.

Потым наша амаль саракаасабовая група рушыла ў свой маршрут па роднай зямлі. Пад вечар былі мы ўжо ў Нараўцы. Вечарам пры вогнішчы маглі мы паслухаць даклад у вядомага журналіста „Нівы“ Міколы Гайдука. Ён гаварыў пра ўзнікненне беларускага народа на субстраце трох плямён: крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў. Карыстаючы, адначасна, з нагоды, што якраз М. Гайдук ад нейкага часу выконвае абавязкі галоўнага рэдактара „Нівы“, моладзь наша выказала свае меркаванні адносна гэтага часопіса. І тут пасыпаліся пытанні, падзякі, засцярогі, увагі, прапановы. З таго ўсяго найбольш цікавай ды інтрыгуючай і адначасна зусім рэальнай была прапанова, каб „Прысутнасць“ (загаловак) быў на першай старонцы, а „Ніва“ — на трэцяй, значыць „Ніва“ — як дадатак у „Прысутнасці“.

У чацвер, дзвюма трасамі, лесам, цераз пушчанскія вёскі завандравалі мы ў Семяноўку.

(Працяг на стар. 3)

## НОВАЕ Ў ДУБІЧАХ

Дубічы Царкоўныя ўзбагаціліся яшчэ адным аб'ектам, які вельмі важны для гаспадароў, — новым будынкам ветэрынарыі. Узведзены ён на тым ускраі вёскі, што ад Чэхаў Арлянскіх. Будова распачалася ў мінулым годзе і, як відаць, адбылася хутка. А яшчэ, побач ветэрынарні, паставілі жыллёвы будынак для персаналу, на чатыры сям'і.

Да гэтага часу ветэрынарня ў нас знаходзілася ў цесным прыватным памяшканні, але і гэтым людзі былі задаволены. Вядома, што галоўную ролю ў ратаванні хворай жывёліны адыгрывае не будынак, а жывы здольны чалавек, добра вывучаны на ветэрынара. У Дубічах было і пакуль ёсць два ветэрынары: Андрэй Кірэйчук і Уладзімір Астапкевіч. Сакратаркаю ў іх — Марыся Сельвясюк, родам з Ягаднікаў, а шафёрам — мясцовы хлопец — Алік Невядомскі. Ён хвацка ездзіць „Тарпанам“, на якім дзень у дзень трэба ж ветэрынару дабрацца ў аддаленыя мясцовасці гміны, каб лячыць — каму хворую карову, а каму і свінню, або, звычайна, даць патрэбную параду на месцы, у канкрэтных умовах.

Ветэрынар Андрэй Кірэйчук паходзіць з-пад Сямяціч. Ён —

(Працяг на стар. 6)

Людзі БГКТ

## АБАРОНЦА

У 1946 годзе Уладзіміру Ярошуку было ўсяго 17 год. У той час неспакойна было на Беласточчыне. Рэакцыйнае падполле знішчала, як магло, усё, што было звязана з народнай уладай. Неабходна было яе ратаваць, брацца за зброю і супрацьставіцца ворагам.

Узяўся за гэта просты народ, якога ідэі Ліпеньскага маніфесту ПКВН мабілізавалі на барацьбу. Адданыя людзі ішлі ў міліцыю і, рызыкуючы сваім жыццём, абараналі новы лад. Да іх належыць Уладзімір Ярошук з вёскі Асоўка, што непадалёк Чыжоў. Ён у 1946 годзе быў прыняты ў рады Польскай рабочай партыі.

Пасля кароткай падрыхтоўкі яго накіравалі туды, дзе было найцяжэй, у найбольш небяспечныя мясцовасці. У 1947 годзе, падчас першых выбараў у Сейм ПНР быў ён ужо камендантам міліцыі ў Вышках. Потым служыў у Драгічыне. Усюды, як гэта па-вайсковаму гаворыцца, быў на першай лініі, усюды быў пагрозай для рэакцыі, якая забівала прыхільнікаў народнай улады і здзекавалася над імі.

У студзені 1951 года, у ваколіцы Цеханоўца, заходзіць ён аднойчы з другімі міліцыянерамі ў адну з вясковых хатаў і раптам, зусім неспадзявана, пасыпаліся па іх выстралы. Гіне тады адзін міліцыянер. Пад ногі Уладзіміра Ярошука кінулі гранату, але на шчасце яна не разарвалася. І так смерць заглянула Ярошуку ў вочы. У няроўнай сутычцы тры міліцыянеры мусілі адступіць, але і перапужаная дванаццаціасабовая група ворагаў разбеглася. Потым ён прымаў удзел у ліквідаванні бандаў Гузара і Глушца.

Міліцыя змагалася не толькі з бандамі, але і са звычайнымі рабаўнікамі, зладзеямі, хуліганамі, парушальнікамі спакою і ладу. Ды і цяпер, каб не было міліцыі, грамадскае „дно“ атруціла б хутка наша жыццё.

У гадах 1951-52 У. Ярошук закончыў міліцыйную школу ў Слупску. Нейкі час працаваў следчым у Бельску і Замбрchoве, дзяжурным афіцэрам у Бранску і ў 1975 годзе ў званні падпаручніка адышоў на пенсію як заслужаны дзеяч міліцыі. Узнагароджаны ён Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы і іншымі адзначэннямі.

Цяпер У. Ярошук мог бы ўжо адпачываць. Але гэта не ў яго характары выключыцца з дзейнага працоўнага і грамадскага жыцця. Ён стаў працаваць на Сямяціцкай абутковай фабрыцы.

(Працяг на стар. 4)




## АБ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦІ (XXXI)

Шостага ліпеня бягучага года ў Нараўцы было праведзена свята Купалы. На ўскраіне Белавежскай пушчы, блізка рэчкі Нараўкі, сабраліся жыхары навакольных беларускіх вёсак; прыехалі мастацкія калектывы з Гайнаўкі, Ляўкова, Міклашэва, Семяноўкі і самой Нараўкі — усе беларускія.

Мне як старшыні ГП БГКТ прыйшлося выступіць з прамовай, а можа лепш сказаць гутаркай аб характары свята Купалы на беларускіх землях у мінулым. Пасля выступалі калектывы. Вялікае ўражанне зрабіў гайнаўскі, які неспадзяванай зоркай паявіўся некалькі гадоў таму назад на беларускім мастацкім небе і, несумненна, свеціць усё яскравейшым святлом. Як жа ж тут не падзякаваць усім яго ўдзельнікам і галоўным ініцыятарам і арганізатарам Аляксандру Лукашуку і Мікалаю Бушко. Я асабіста гайнаўскі хор слухаю не часцей як раз на паўгода і ўсялякі раз кідаецца ў вочы, а можа лепш сказаць, у вушы ўсё ўзрастаючы ўзровень гэтага калектыву.

Праўда, на калектыў я крыху злосны, бо ўжо некалькі гадоў таму назад запрапанаваў яму да выбару дзве назвы: Паляна, або Рэха з надзеяй, што буду хросным бацькам. Аднак яго члены да сёння ніяк не рэагуюць на маю прапанову. Гэта, зразумела, жарт, а ўсур'ёз яшчэ раз хачацца падкрэсліць, што гайнаўскі хор — гэта гонар для Беларускага таварыства.

Тое ж самае або падобнае трэба сказаць і аб усіх іншых, выступаючых у Нараўцы калектывах. Праўда, яны меншыя, не так як гайнаўскі, манументальныя і ўрачыстыя. Аднак таксама шчырыя, народныя і нашы, беларускія. А беручы пад увагу тое, што дзейнічаюць у вясковых, цяжэйшых, чым гарадскія, умовах, дык патрабуецца ад іх удзельнікаў выключнай працавітасці і ахвярнасці. Зразумела, што калектывы гэтыя не маюць наогул такой прафесійна-інструктажнай апекі, як тыя, што дзейнічаюць у гарадах. Нягледзячы на гэта, вясковыя калектывы прадстаўляюць усё ўзрастаючы ўзровень. Як жа тут не пакланіцца гэтым нашым цудоўным артыстам, якія ствараюць славу беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы і Беларускаму таварыству.

Вяртаючыся да нараўчанскага фэстына, хачу сказаць, што пасля песень, як у арабскіх казках, пачалі на паляне рассцілацца абрусы, на якіх заквітнелі міскі, напоўненыя закускай, агуркамі, памідорамі, каўбасамі і Бог ведае чым яшчэ. У гэтым жа часе над вогнішчам на жалезным ражне павіс баран. Ніхто не быў пакінуты па-за гасціннымі сталамі. За іх трапіў і я. Сардэчныя жаночыя рукі падавалі закуску, мужчынскія налівалі ў кілішкі. Паплылі песні, пасыпаліся жарты, пачаліся танцы. І так недзе да дванаццатай ночы. А пасля, як па камандзе, усе ўсталі, невядома адкуль паявіліся вянкі з запаленымі свечкамі і вялікі карагод пацягнуўся на рэчку. Хлопцы кінуліся ў ваду і пачалі суправаджаць вянкі на вадзе.

Глядзеў я на гэта ўсё і расло ў грудзях маё сэрца ад радасці і гордасці за наш народ, за яго дабрату, за яго шчырасць і яго прыгажосць. Можа і тысячу гадоў таму назад на гэтай жа паляне нашы далёкія продкі таксама ўшаноўвалі язычаскага Купалу. Прайшлі стагоддзі, змагутнелі дубы, а народнае беларускае сэрца засталося такое ж.

**Алесь Барскі**






### БЕЛАРУСЬ — НЕЧАРНАЗЕМ'Ю

Выпуск універсальнай тэхнікі для асушэння зямель Нечарназем'я асвоіў Мазырскі завод меліярацыйных машын. На трасы адпраўлены вялікія партыі новых кустарэзаў.

Яны больш кампактныя, чым іх папярэднікі, высокаманеўраныя нават на самых забалочаных участках. Машыны здольны ачышчаць плошчы ад дробнай раслінасці, выраўноўваць масівы, аднаўляць рэльеф каналаў.

### ДАПАМАГАЮЦЬ КАМП'ЮТЭРЫ

Здольнасць аператыўна перастройвацца на выпуск новай прадукцыі набылі станкі тыпу „апрацоўчы цэнтр“ на Мінскім аўтамабільным заводзе. Тут пачала дзейнічаць аўтаматычная сістэма падрыхтоўкі праграм для такіх комплексаў. Прымяненне камп'ютэрнай тэхнікі прыкметна спрасціла гэты працэс і амаль у дзесяць разоў павысіла прадукцыйнасць працы праграмістаў. Рэзка палепшыліся каэфіцыент зменнасці абсталявання і якасць вырабаў.

Новая тэхналогія поўнасцю выключае памылкі пры складанні тэхнічных заданняў, ліквідаваны прастоі станкоў на карэкціроўку праграм.

### НАДЗЕЙНЫЯ ПАМОЧНІКІ

Надзейнымі памочнікамі земляробаў Палесся сталі міжгаспадарчыя пчалярскія аб'яднанні. На дагаворных асновах яны даюць калгасам і саўгасам магчымасць выкарыстоўваць пчол для апылення садоў, агародаў, пасеваў канюшыны і грэчкі.

Больш як 500 пчаліных сем'яў Камянецкага міжгаспадарчага аб'яднання і Брэсцкага пчолагадавальніка „папрацавалі“ ў садзе саўгаса „Рассвет“ Брэсцкага раёна. Для перавозкі вулляў выкарыстоўваліся спецыяльныя трайлеры-кантэйнеравозы.

Цяпер апыляльны „цэх“ перамясціўся на пасевы белай канюшыны. На ўгоддзях гэтай кармавой культуры ў саўгасе „Дняпрабургскі“ Кобрынскага раёна багаты медазбор атрымлівае пчальнік калгаса „Новае жыццё“.

### НАВАСЕЛЛЕ ПАСАЖЫРАЎ

Гаспадарамі новага аўтавакзала сталі жыхары і госці Навагрудка. У будынку, які ў многа разоў больш умяшчальны за ранейшы, цэлы этаж аддадзен пад залу чакання. Зручней размешчаны аснашчаныя сучасным абсталяваннем камеры для захоўвання багажу, білетныя касы, добраўпарадкоўваецца сумежная тэрыторыя. Не будзе пуставаць і памяшканне былога вакзала. Пасля капітальнага рамонту тут размесцяцца пакоі адпачынку маці і дзіцяці, кіёскі, буфет.

### ПРАКАТ НА ФЕРМЕ

Разнастайныя рэчы — ад пасуды да халадзільнікаў і дзіцячых калясак — выдае жывёлаводам напракат пункт, які адкрыўся на малочнатаварным комплексе калгаса імя Ціміразева Капыльскага раёна. Тут жа прымаюцца заяўкі на завоз трыкатажных, швейных вырабаў і абутку, выклік парыкмахераў і фатографа.

Новая форма сервісу актыўна прыжываецца і ў іншых гаспадарках раёна. Яна эканоміць час вяскоўцаў, дае магчымасць калектыву камбіната бытавога абслугоўвання насельніцтва павышаць прадукцыйнасць працы, перавыконваць планавыя заданні.

### „ВЕРШАЛІНСКІ РАЙ“

Мінскае выдавецтва „Мастацкая літаратура“ выпусціла ў аўтарскім перакладзе на рускую мову раман-быль А. Карпюка „Вершалінскі рай“. У ім апісана секта прарока Альяша (Клімовіча), якая ў міжваенны час дзейнічала на Беласточчыне. Твор ярка выражанага антырэлігійнага кірунку.

### СПОРТ

Беларусь, РСФСР, Украіна — так выглядае тройка прызёраў прайшоўшага каманднага турніра па вольнай барацьбе ў праграме IX летняй Спартакіяды народаў СССР.

— Вось што значыць, калі адзін за ўсіх, а ўсе за аднаго! — усклікнуў трохразовы алімпійскі чэмпіён Аляксандр Мядзведзь пры падвядзенні вынікаў спаборніцтваў. Тлумачэнне гэтаму простае — саперніки не абышліся без зрываў, а беларускія хлопцы выступілі на рэдкасць роўна і ўпэўнена.




## РЭМБАІЗМ

З афіш на рэкламных тумбах злятаюць словы, напісаныя аршыннымі літарамі: „Рыхтуйся да трэцяй сусветнай вайны!“, „Амерыканскі герой Рэмба заклікае цябе!“. Гаворка ідзе аб кінастужцы Галівуда „Рэмба: першая кроў, частка другая“, у якой амерыканскі супергерой, абчапляны зброяй, адпраўляецца ў В'етнам, каб адшукаць там амерыканскіх ваеннапалонных. Туды ж прыбываюць і савецкія афіцэры. На экране буйным планам паказваюць чорныя боты. У палон да „чырвоных“ трапляе Рэмба. Яго дапытвае савецкі падпалкоўнік, які размаўляе з выразным нямецкім акцэнтам. Ён халодны, жорсткі — сапраўдная копія галівудскага садыстаэсэсаўца. „Зверападобныя рускія“ здзекуюцца з Рэмба, прымяняючы электраток, пагражаюць выкалоць яму вочы напаленым да чырвані нажом і таму падобнае. Вось тут амерыканскі супергерой і захапляе гледачоў сваімі натрэніраванымі біцэпсамі: ён без шкадавання крышыць „чырвоных“ налева і направа.

Фільм, як ні парадаксальна зачараваў прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана. Гэта стала вядома пасля таго, калі ён, уражаны кінабаевіком, выпадкова сказаў у пакінуты ўключаным мікрафон: „Я паглядзеў „Рэмба“ і цяпер ведаю, як паступаць з міжнародным тэрарызмам“. Дарэчы, па падліках часопіса „Піпл“, у гэтай 93-мінутнай кінастужцы паказаны 44 забойствы, гэта значыць, у сярэднім адно на кожныя дзве мінуты, не лічачы масавай гібелі людзей ад узрываў.

А якімі крывавымі водбліскамі палае кінабаявік „Чырвоны світанак“, дзе паказана трэцяя сусветная вайна і, вядома ж, рускія, якія ўварваліся ў адзін з гарадоў штата Каларада. Яны бязлітасна знішчаюць жыхароў горада. Мэта ўварвання „чырвоных“ — знішчэнне ЗША.

У кінатэатрах, дзе дэманструецца „Рокі-4“, гледачы аж заходзяцца ў дзікім экстазе, з крыкам і віскам ускідваюць уверх рукі, калі іх кумір баксёр-цяжкавагавік Рокі кідае ў накдаун савецкага баксёра. „Забі, забі Івана!“ — выюць у зале.

Мода, прадыктаваная Рэмба, запаланіла Амерыку. Па ўсёй краіне ствараюцца клубы паклоннікаў забойцы, якія, размахваючы зброяй, зацвярджаюць свой уплыў сярод моладзі. На праблемы і рознагалоссі з ідэалагічнымі праціўнікамі рэмбісты глядзяць выключна праз мушку прыцэла. Рэмбаізм без цяжкасцей упісаўся ў амерыканскі лад жыцця. І нядзіўна. „Узаконенае насілле з'яўляецца неад'емнай часткай нашага спосабу кіравання; яно дапамагае нам ачысціцца ад нашых слабасцей“, — гэта ўрывак з інструкцыі аб характары і мэтах Каліфарнійскага інстытута трэнінгу. Пад гэтай, на першы погляд рэспектабельнай шыльдай хаваецца школа падрыхтоўкі галаварэзаў-камандос, якія выкарыстоўваюцца на падаўленні ў краіне грамадзянскіх пратэстаў і дэмакратычных рухаў. Рональд Рэйган асабіста прымаў актыўны ўдзел у стварэнні і дзейнасці гэтага „інстытута“.

Вашынгтонская адміністрацыя логіку рэмбаізму, які прызнае толькі культ сілы, распаўсюдзіла і на міжнародныя адносіны, на сваю знешнюю палітыку. Хіба ж не па логіцы Рэмба сфабрыкавана і праслаўляецца на ўсе лады злашчасная „дактрына Рэйгана“, што абвяшчае нейкае „права“ ЗША звяргаць непажаданыя ім урады дзяржаў, якія ў Вашынгтоне называюць „пракамуністычнымі“.

**Не чым іншым, як рэмбаізмам, які стаў сінонімам неаглабалізму, можна ахарактарызаваць блізарукі і небяспечны для справы міру знешнепалітычны курс стратэгаў Белага дома.**

К.Ч.



# Бацькаўшчына



(Працяг са стар. 1)

Праходзячы праз беларускія вёскі, студэнты выклікалі сабой неспатыканае, аграмаднае зацікаўленне ды здзіўленне жыхароў. Магчыма, што гэтае нечаканае з'яўленне тут турыстаў, якія спяваюць і гавораць па-свойму, быў бадай найбольшай падзеяй на працягу доўгіх гадоў.



Памятны здымак групы „Белавежа-3" каля Гайнаўскага беларускага ліцэя перад паходам па родным краі.

У Семяноўцы чакаў нас тэатр „Парнас", які, хаця не зусім у поўным складзе, змог усё ж выступіць перад студэнтамі. Пасля гэтага прысутныя заслухалі даклад Юркі Ляшчынскага пра ксяндза В. Гадлеўскага. Многім, якія, зразумела, хацелі таго, дакладчык адкрыў вочы на некаторыя падзеі з беларускай гісторыі, якія ўсё ж трэба ведаць свядомай беларускай моладзі. З тае прычыны, што пара была даволі позняя, дыскусію пераклалі на вечар наступнага дня. І сапраўды, у пятніцу вечарам, пры вогнішчы, ля ракі Нараў, непадалёк вёскі Лука Юрка Ляшчынскі адказваў на пытанні. Дапамагаў яму Валянцін Сельвясюк, які прадставіў умовы жыцця і дзейнасці беларускіх патрыётаў у абставінах акупацыі Беларусі гітлераўцамі. Кс. Гадлеўскі, як вядома, быў забіты немцамі ў канцы снежня 1942 года.

Пры гэтым жа вогнішчы, ужо крыху пазней, пачалося вывучэнне ды супольнае спяванне беларускіх песень. Хаця некалькіх нашых сяброў адсутнічала — гэты вечар быў бадай што найпрыгажэйшым з усяго рэйду.

У суботу маршрут прывёў нас у Міхалова, даўней Нізбодку. Амаль 25 кіламетраў мы прайшлі вясёлай і згоднай групай. Людзі ў вёсках, дзе мы пабывалі, выносілі нам садавіну, ежу, праяўляючы гэтым сваю ветлівасць і гасціннасць, такую яшчэ нядаўна ўласцівую беларусам паўсюдна. У Міхалове сустрэліся мы з Сакратам Яновічам, які спецыяльна прыехаў, каб расказаць нам пра выдатных беларускіх сыноў Беласточчыны. Сапраўды было іх нямала, шкада толькі, што недастаткова аб усіх іх сёння памятаюць. А варта, трэба. Далейшая, спеўная частка вечара пачалася патрыятычнымі песнямі да слоў бел. паэтаў, якія выканалі надта прыгожа сёстры Аня і Ірына Гаданчук з Гданьска.

Нядзеля была апошнім днём рэйду. Маршрут — усяго толькі дзевяць кіламетраў, бо з Міхалова ў Гарадок. Яго прайшлі ўсе, нават тыя з моцна абалелымі нагамі. А жыхары Гарадка прынялі нас сваёй славутай беларускай гасціннасцю. Вечарам таго дня ўсе разам, і беларускія студэнты і мясцовая моладзь ды старэйшыя з ваколіцы, разам больш за сто асоб расклалі аграмаднае, але, на жаль, развітальнае вогнішча. Пры бляску полымя выпускніца Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Марыля Базылюк пазнаёміла прысутных з асобай слаўнага, хаця надоўга забытага, жыхара Гарадка, нашаніўца М. Арла, фрагмент верша якога быў моттам лістоўкі-запросін на гэты ж рэйд. Варта яшчэ заўважыць, што далейшы сваяк Сцяпана Пятэльскага (інакш М. Арла), Яўген Пятэльскі, студэнт Беластоцкай палітэхнікі, ішоў з намі ў першай групе пад канец рэйду.

Вогнішча закончылася амаль на світанку, а раніцай мы раз'ехаліся кожны ў свой бок. І так, у панядзелак закончыўся чарговы рэйд „Бацькаўшчына". Паход пакінуў у нас, удзельнікаў, і ў спатканых людзей шмат уражанняў, успамінаў, якія надоўга застануцца жывым следам гэтых шасці супольных дзён. Большасць з нас завязала між сабой новае, сардэчнае сяброўства, узмацніла ранейшае, але і, на жаль, на вялікі жаль, дружба паміж некаторымі намнога пахаладнела, а то і парвалася. Крыху шкада, што некаторыя з нас не зусім разумеюць ідэю такога рэйду. Справа не толькі ў тым, каб адпачыць, правесці весела час у сяброўскай кампаніі, бліжэй пазнаёміцца. Ідэя рэйду — гэта таксама дакладнейшае спазнанне ўсяго роднага: гістарычнай і літаратурнай спадчыны, сцэментаванне на ўсіх магчымых асновах як найбольшай колькасці моладзі. Ну і тое, каб пачаць, нарэшце, не толькі гаварыць па-беларуску, але і па-беларуску думаць. Так прынамсі мне здаецца.



Немагчыма прадставіць „Бацькаўшчыну" без песень Міраслава Пякарскага.

**Удзельнік гэйду „Бацькаўшчына-3".**
**Фота Л. Тарасэвіча**

# БРАТЭРСТВА І ДРУЖБА

25 ліпеня г.г. жыхары Гайнаўкі і Белавежы прывіталі ўдзельнікаў 14 міжнародных спаборніцтваў у радыёпеленгацыі (радыёразведцы). Спаборніцтвы праводзіліся ў днях 24-30 ліпеня пад лозунгам „Братэрства і дружба". Спартыўнае мерапрыемства арганізавала Ліга абароны краіны. Старшынёй ганаровага камітэта быў І сакратар ВК ПАРП Уладзімір Каладзеюк, а членамі камітэта, між іншымі, старшыня ГП ЛОК — генерал дывізіі Зыгмунт Гушча і шэф сувязных войск — генерал брыгады Генрык Андрацкі. Стартавалі атрады з Балгарыі, Карэйскай Народна-Дэмакратычнай Рэспублікі, Манголіі, Чэхаславакіі, ГДР, Венгрыі, Савецкага Саюза і Польшчы. Кожная рэпрэзентацыя налічвала 15 чалавек у групах: хлопцы 16-18 год, мужчыны — 18-25 год і жанчыны.

Упершыню такія спаборніцтвы пачаліся праводзіцца ў 50-я гады. Першае такое мерапрыемства адбылося ў 1958 годзе ў Сувалках, а ў 1976 годзе ў Супраслі.

**Як выглядаюць спаборніцтвы?**



Люба Раманова і трэнер савецкай рэпрэзентацыі Рыхард Пултур.

У лесе размяшчаюцца 5 добра замаскіраваных радыёстанцый, якія можна заўважыць голым вокам толькі з адлегласці 3 метраў. Працуюць яны аўтаматычна наперамен 1 мінуту, кожная ў іншай частотнасці. Удзельнік спаборніцтва намярае радыёперадатчык спецыяльнай прыладай — пеленгатарам. У яго ёсць таксама компас і карта з намечанымі перашкодамі ў лесе. Спартсмен павінен як найхутчэй знайсці радыёстанцыю — выбраць найкарацейшую простую дарогу да ўсіх 5 перадатчыкаў. Станцыі знаходзяцца ў адлегласці 750 метраў адна ад другой, але бывае, удзельнік спаборніцтва бегае ў лесе 12-15 кіламетраў. Апрача радыёразведкі ўдзельнікі змагаюцца ў стральбе і кідаюць гранатай. Вартасць гэтых спаборніцтваў у тым, што спалучаюць яны веданне электроннай тэхнікі, тапаграфіі і бег у цяжкіх умовах.

25 ліпеня, пасля складання вянка на ваенных могілках, удзельнікі спаборніцтваў перайшлі на стадыён у Гайнаўцы, дзе ўжо іх чакалі жыхары Гайнаўкі, турысты. Спартсменаў прывіталі, між іншым, ген. дывізіі Зыгмунт Гушча, ваявода Мар'ян Гала, сакратар ВК ПАРП Тадэуш Тшаскоўскі, старшыня ВП ЛОК Аляксандр Чуж. Пасля парада атрадаў, з багатай праграмай выступілі бельскія „Васілёчкі" і „Падляшскія зязюлькі".

У суботу праводзіліся спаборніцтвы ў канкурэнцыі 3,5 МГц, у нядзелю стральба і кіданне гранатай, а ў панядзелак спаборніцтвы ў канкурэнцыі 144 МГц. У праграме мерапрыемства быў час таксама і на большыя прыемнасці — вогнішча, зялёны кулік, знаёмствы з Белавежай і Гайнаўкай.

Удзельнікі мерапрыемства азнаёміліся таксама з дасягненя-

(Працяг на стар. 4)




## КАБ БЫЛО ДОБРА

У „Ніве“ (нумар 12 ад 23 сакавіка 1986 г.) Пётр Байко ў сваім артыкуле піша, што каб наша газета выходзіла на польскай мове, то яе тыраж можна было б павялічыць. Аднак гэтага напэўна ніколі не будзе. Значыць, далей „Ніва“ не будзе карыстацца вялікай папулярнасцю. Згаджаюся з П. Байко, што мала беларусаў ведае сваю літаратурную мову, але гэта не прычына, каб не чытаць „Ніву“. „Ніву“ чытаюць нават палякі, якія ніколі не вывучалі беларускай мовы і не ведаюць яе. Аднойчы я спаткалася з полькай, якая хвалілася мне, што чытае „Ніву“. На пытанне, ці зразумела што-небудзь, яна адказала, што палову зразумела, а палову здагадалася. Беларусы не надта горнуцца да роднага. Многія, на жаль, з нас любяць падшыцца пад другую нацыю. Адрываюцца ад зямлі, а не далятаюць да неба. Свайго лёсу праз гэта не палепшаць, а ўсім патрыётам беларускім шкодзяць. „Ніва“ цікавая.

Што датычыць матэрыялу для артыкулаў, то фактычна можна іх знайсці ўсюды. Аднойчы ў Бельску Падляшскім пачула я ад усхваляванай старэйшай жанчыны, што лістаноша не хоча насіць рэнты, бо яму не даюць 100 зл. Як гэтаму не паверыць, калі гэта пацвердзілі іншыя, што нават самі даюць, каб не хадзіць на пошту. Такіх і падобных спраў мноства. Такім чымсьці напэўна не асмешымся. Толькі наробім сабе клопату, бо штораз больш лістаношаў, вазакоў і другіх працаўнікоў, якія хочуць, каб давалі ім людзі „ў лапу“ за выкананую работу, за якую бяруць яны ад дзяржавы грошы. Тых, што хочуць „біць іх па лапе“, абкідаюць балотам і часамі нават удаецца ім аднесці перавагу. Вось да чаго мы дайшлі!

Красворды можна ўвесці ў „Ніве“ і заахвоціць людзей да рашэння. Толькі трэба рабіць гэта паступова. Спачатку ўвясці красворды ў „Зорцы“. Трэба, каб гэтым зацікавіліся настаўнікі беларускай мовы. Тут вялікая іх роля. Калі ў „Зорцы“ паявіцца красворд, то павінны яны заахвоціць вучняў да рашэння. Спачатку няхай будзе красворд састаўляцца з простых слоў, а пасля і больш складаных.

Васіль Петручук у адгалосках у „Ніве“ (№ 29 ад 18 мая 1986 г.) піша, што беларусы не хочуць сябе выдаваць“. Гэта праўда. Згаджаюся таксама і з тым, што не ўмеем мы канкрэтна і катэгарычна акрэсліць свае нацыянальнасці.

Мяне адно здзіўляе: нашыя браты палякі ў найгоршым часе свядома баранілі сваю мову, культуру, традыцыі. За гэта іх праследавалі і паніжалі, але яны нізашто не выракліся свайго паходжання і мовы. А мы?

Яшчэ многа, многа работы чакае БГКТ, каб не загінула беларускасць на Беласточчыне і ўвогуле ў Польшчы. Гэта работа будзе цяжкая і даволі часта прыдзецца дзеячу БГКТ пра-

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 1)

## НОВАЕ Ў ДУБІЧАХ

беларус, як і яго супрацоўнік — ветэрынар Уладзімір Астапкевіч, які родам з Вялікіх Тыневічаў. І хоць жыве ён з сям'ёю пакуль што ў Гайнаўцы, то ўжо пераедуць яны да нас, у Дубічы, у той жыллёвы будынак. Гэта добрыя хлопцы, сумленныя і знакамітыя спецыялісты. Людскія! На кожную просьбу гаспадара спяшаюцца з дапамогаю яму, каб у час прыехаць і выратаваць захварэўшую жывёліну. У іх няма: пачакай. Працуюць яны так, як павінны працаваць людзі новага веку. Страта ў гаспадара — гэта страта ў нас усіх, бо ж гаспадар корміць хлебам народ. Людзі задаволеныя гэтымі дактарамі сваімі (так звычай называюць іх). Задаволеныя таксама і тымі, хто дапамагае ім так добра працаваць, гэта значыць, — Марысяй Сельвясюк і Алікам Невядомскім. Яны ветлівыя і культурныя працаўнікі.

Хочацца прыпомніць і тое, што ветэрынар Уладзімір Астапкевіч шмат ведае па памяці беларускіх вершаў і з усімі гаворыць ён па-беларуску, і гэтым яшчэ болей заваяваў сабе аўтарытэт і пашану ў нашым асяроддзі, і ў мяне асабіста, бо ж свая родная мова найдаражэйшая.

Трэба сказаць, што наша дубіцкая ветэрынарня папоўніцца двума новымі ветэрынарамі. Будынак жа цяпер яе ёсць прасторны, з усімі патрэбнымі выгодамі, з адпаведнай лабараторыяй ды сучасным абсталяваннем яе; ёсць нават аперацыйная зала ў ім. А наўкола будынка — вялікі пляц, што таксама мае сваё значэнне.

Будынак гэтай ветэрынарні настолькі вялікі, што ў яго пераведзены і мясцовы Банк СОП, які дагэтуль гняздзіўся ў прыватнай хаце. Пэўна ж, ад таго яшчэ адна выгода гаспадарам, бо калі ўсенька на месцы знаходзіцца, то менш тады хадзьбы.

Гэтак жа і наша Гмінная ўправа палепшыла сабе і людзям варункі, дабудаваўшы так званы блізнюк, зусім не меншы ад папярэдняга гмаху. І на выгляд такі ж. Гэты „блізнюк“ урачыста адкрывалі 12 ліпеня. У гэты новы будынак пераведзены і ЗАГС, якім кіруе дубіччанін Яўген Панфілюк. Дзякуючы таму цывільныя шлюбы ў нас будуць ужо адбывацца ў дастойным таго месцы, у прыгожым пакоі, у адпаведным так важнаму жыццёваму моманту настроі.

Так што назбіралася ў Дубічах добрых навінаў.

**Мікалай Панфілюк**

На так пастаўленае пытанне можна было б адказаць коратка: плачуць.

Але конскі плач вельмі адрозніваецца ад чалавечага плачу, нават ад плачу бездапаможнага дзіцяці. Пэўна, што чалавек плача, калі яму крыўдна, калі яму балюча, калі патраціць кагосьці блізкага. Але чалавек можа залівацца фальшывымі слязамі, калі хоча ад кагосьці нешта выенчыць, і плача са злосці, калі не можа камусьці адпомсціць. А жывёла плача толькі тады, калі яе гаспадар пакрыўдзіць. І яна плача толькі крыўдна, нейкім сардэчным болем, нават не хліпаючы.

Пішу я вось гэтыя словы, а мне нейкі камяк у горле ад здарэння, аб якім я хачу сказаць некалькі слоў, хаця мінула ўжо 43 гады. Гэта было ў часе арання „чарнухі“.

Пайшлі мы з бацькам у Вос-

## РОДНЫЯ КРАЯВІДЫ



**Хата з канца XIX стагоддзя ў Сямяніцах на вул. Свентаянскай.**
**Графіка У. Петрука.**

## У ЖОНКІ ГЕРОЯ

Сёлета, у ліпені, пашчаслівілася мне крыху паездзіць па роднай і сэрцу блізкай Савецкай Беларусі. Гасцяваў я ў сяброўжурналістаў штодзённай газеты „Віцебскі рабочы“, якая выходзіць у Віцебску бесперапынна з 1917 года.

Віцебшчыну спалучаюць шматгадовыя пабрацімскія сувязі з Зялёнагурскім ваяводствам. Для прыкладу, калі я адпраўляўся ў Віцебск, значыць, пад канец чэрвеня, у Зялёнай Гуры прабывала дэлегацыя ад Віцебскай вобласці, а калі маё падарожжа па Віцебшчыне завяршалася, значыць, у палавіне ліпеня, зноў у Зялёную Гуру накіравалася другая партыйна-савецкая дэлегацыя, якую ўзначальваў першы сакратар Віцебскага абкома Камуністычнай партыі Беларусі. Людзі тут ужо прывыклі да гэтага абмену гасцей. І мяне часта таксама пыталі: з якой я дэлегацыі, калі выяўлялася, што гутараць яны з грамадзянінам Народнай Польшчы.

А я не быў з ніякай дэлегацыі. У Савецкую Беларусь прывяло мяне шчырае жаданне, каб пакланіцца пабрацімскай зямлі, каб паглядзець, як жывуць там нашы браты-беларусы, як яны працуюць у гарадах і ў вёсках, чым турбуюцца і што іх радуе. Дык вялікае дзякуй кіраўніцтву Віцебскай абласной арганізацыі Саюза журналістаў БССР, што дапамаглі мне рэалізаваць пажаданую мэту.



**Старшы лейтэнант Іван Іванавіч Фёдараў, які загінуў над Бугам у чэрвені 1941 г.**

А яшчэ мне хацелася прывітацца і пагаварыць з Палінай Яфрэмаўнай Сулейкінай — жонкай лейтэнанта Івана Фёдарава, камандзіра I роты 17-га кулямётнага батальёна, які геройскі загінуў у адным з дотаў, што за вёскай Анусін у надбужнай паласе, да апошняга дыхання абараняючы дзяржаўную граніцу ад гітлераўскіх захопнікаў у чэрвені 1941 года.

Паліна Яфрэмаўна засталася ўдавою з двума маленькімі дзяцьмі. Сыну Алегу было тады нямнога больш за адзін тыдзень жыцця, а дачка Інеса толькі што закончыла трэці годзік. Ледзь жывыя вырваліся яны з гарэўшага дота, каб шукаць ратунку ў мясцовых сялян. Словы *„ледзь жывыя“* разумець тут трэба не ў пераносным, але ў літаральным сэнсе. Маленькі Алежка, для прыкладу, не даваў ужо аніякіх прызнакаў жыцця і маці пачала голымі рукамі, сярод жыта, на ўзгорку за вёскай Анусін капаць яму магілку... А тут жа за імі, паабапал дарогі, што спалучае Сямяцічы з Высокалітоўскам, ішло крывавае змаганне. Гэта падкамандныя яе мужа, старшага лейтэнанта Івана Іванавіча Фёдарава, вялі заўзяты бой... Каторы ўжо дзень стаялі яны тут на смерць і жыццё... І раптам хлопчык ачуняў, жыццё яму вярнулася... (Аб усім гэтым даволі падрабязна пісаў я на старонках „Нівы“ яшчэ ў 1981 годзе).

Дзякуючы спагадзе беларускага насельніцтва, асабліва ў вёсках Бацікі і Раманаўка, многім асірацеўшым сем'ям савецкіх афіцэраў удалося шчасліва перажыць гады акупацыі. Паліна Сулейкіна са сваімі дзецьмі знайшла прытулак у сям'і Марыі і Яна Врублеўскіх у Баціках Сярэдніх.

Пра яе лёс ведаў я амаль усё, але сустрэцца з ёю, на жаль, неяк мне не давялося. Яна часта

# ЗОРКА
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## АДДАНЫ ПРЫЯЦЕЛЬ ДЗЯЦЕЙ

### ДА 80-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ

Ёсць у беларускай сталіцы Мінску месца, дзе з вялікай радасцю сустракаюць кожны нумар нашай газеты, „Зоркі". Гэта звычайная невялічкая прыватная кватэра чалавека, заслужанага педагога, які ўсё сваё жыццё прысвяціў працы з дзецьмі, выхоўванню ў іх любві да ўсяго роднага, сваёй мовы і культуры, а таксама вялікага пачуцця інтэрнацыяналізму, дружбы з народамі іншых краін.

Чалавек гэты — педагог, паэт і мастак у адной асобе — Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн. Гэта да яго ў госці збіраюцца вось ужо многія гады дзеці з усёй ваколіцы, каб разам пагуляць, паспяваць, памаляваць, пачытаць цікавыя апавяданні і артыкулы з розных часопісаў. Клуб існуе ўжо 22 гады. Змяніліся дзеці, вырасла новае пакаленне, якое змяніла сваіх бацькоў у гэтым адзіным, як здаецца, ў свеце клубе ў прыватнай кватэры. Клуб прыняў сабе назву „Дружба-не-разлій-вадой". Якімі карыснымі справамі толькі не займаюцца тут дзеці? Нашыя чытачы найбольш ведаюць гэты клуб па карэспандэнцыі з нашай газетай. Дзеці з клубу „Дружба-не-разлій-вадой" у Мінску прысылаюць свае адрасы ў „Зорку", бо хочуць перапісвацца з нашымі чытачамі, прысылаюць свае апавяданні ў рубрыку „Вучнёўская творчасць", пішуць аб сваім жыцці.

Два гады назад клуб „Дружба-не-разлій-вадой" святкаваў свой 20-гадовы юбілей. „За 20 гадоў нашага існавання, — пісаў у пісьме да „Зоркі" заснавальнік і нязменны апякун клуба Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн, — „Зорка" дапамагла наладзіць перапіску аж з 4-ма тысячамі сяброў з Польшчы. З ГДР у нас перапісваюцца дзеці з 1500 сябрамі, трохі менш з Балгарыяй і Венгрыяй".

27 жніўня Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн святкуе сваё 80-годдзе. „Зорка" ад імя ўсіх чытачоў, а таксама працаўнікоў нашай рэдакцыі складае юбіляру самыя сардэчныя пажаданні здароўя і творчай працы, а таксама доўгіх-доўгіх гадоў сяброўства з дзецьмі.

Пазнаёмім цяпер нашых малых чытачоў з постаццю гэтага паважанага юбіляра.

* * *

Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн нарадзіўся 27 жніўня 1906 года ў вёсцы Лявонавічы каля Нясвіжа. Скончыў гімназію якраз тады, калі па Заходняй Беларусі пракацілася высокая хваля абуджэння беларускай нацыянальнай свядомасці — амаль непісьменны, бедны беларускі народ масава ствараў незвычайную ў гісторыі іншых народаў арганізацыю — Беларускую рабоча-сялянскую грамаду. Людзі хацелі „людзьмі звацца", як пісаў Янка Купала, вырашаць аб сваёй долі, а на практыцы — збіраліся ў гурткі, каб вучыцца чытаць, спяваць свае родныя песні, стваралі народныя тэатры. Многа тады маладых адукаваных людзей уключылася ў гэты нацыянальны рух, каб несці ў глухія беларускія вёскі агеньчык асветы, культуры, свядомасці. Быў сярод іх і дваццацігадовы Сяргей Новік. Хутка стаў ён вядомы як паэт і мастак. Пад псеўданімамі Пяюн, Малады Дзядок і іншымі выходзілі яго творы і малюнкі. У 1927-31 гады выходзіў у Вільні часопіс для беларускіх дзяцей пад загалоўкам „Заранка". Галоўным рэдактарам яго была беларуская пісьменніца і грамадская дзячка Людвіка Войцікава (Зоська Верас). На старонках „Заранкі" ва ўсіх ле нумарах змяшчаліся вершы, апавяданні, п'есы, жарты і малюнкі Сяргея Новіка-Пяюна пад псеўданімам Малады Дзядок. У тыя ж гады выйшлі з друку асобнымі кніжачкамі для дзяцей яго п'есы „Ёлка Дзеда Мароза", „Цудоўная ноч", „Пакой у наймы".



Сяргей Новік-Пяюн у часы супрацоўніцтва з „Заранкай". Тады яму было 20 гадоў.

ЗАРАНКА

Арыгінальны загаловак дзіцячага часопіса „Заранка", які выходзіў у Вільні ў 1927-31 гадах.

Жыў у той час Сяргей Міхайлавіч ужо ў Цэнтральнай Польшчы, а не ў роднай вёсцы. Быў ён выселены туды па пастанове польскага санацыйнага суда за арганізаванне ў сваім асяроддзі тайнага навучання роднай мовы, за тое, што арганізаваў у роднай вёсцы тэатральны гурток, за тое, што любіў спяваць беларускія песні ды яшчэ іншых сваіх сяброў-спевакоў сабраў у гурт, каб спявалася мацней, прыгажэй. Створаны тады Сяргеем Новікам хор у роднай яго вёсцы Лявонавічы існуе па сённяшні дзень, гэта значыць, вось ужо 60 гадоў.

У 1929 годзе Сяргей Пяюн піша і складае музыку да сваіх „Зорачак", песні, якая стала вельмі папулярнай у Заходняй Беларусі. Многія лічылі яе народнай.

У гады гітлераўскай няволі Сяргей Новік-Пяюн трапляе спачатку ў Слонімскую турму, а потым у Калдычэўскі лагер смерці. „У лагеры я працягваў ствараць вершы і песні, — расказвае ў адным са сваіх пісем да мяне Сяргей Міхайлавіч. — Я „запісваў" у памяці, бо не было ані паперы, ані алоўка, ды каб і быў, пісаць было забаронена мне. Калі мяне вялі на расстрэл, партызаны выратавалі мяне, і тады я па памяці запісаў на паперу свае вершы-песні". Так паявіўся цыкл вершаў „Песні з-за кратаў".

Вось некалькі радкоў з верша „Прысяга", дзе паэт звяртаецца да сваёй маці-радзімы, роднай Беларусі:

Ты ж мяне ад маленства карміла  
Хлебам з роднай любімай зямлі,  
З крышталёвых крыніцаў паіла,  
Што з-пад сэрца твайго паплылі.  
. . . . . . . . . . . . .  
Тут я рос на вясковым раздоллі,  
Ад бацькоў прыклад браў працаваць,  
І ад птушак у лесе і ў полі  
Я вучыўся тут песні спяваць.  
Тут вучыў мяне бацька мой родны  
Сваю мову любіць, шанаваць,  
Сцерагчы гэты скарб нашы народны,  
Яго ў крыўду нідзе не даваць.

Вершы, песні, складаныя ў думках, дапамаглі перажыць цяжкія гады, не страціць веру ў жыццё, у перамогу справядлівасці, дабра і міру на зямлі.

(Працяг на стар. 10)




**Віктар Швед**

### ЗАГАРАЕ МАМА

Распранаецца матуля  
На залітым сонцам пляжы.  
А маленькая Ганулл  
Нечакана маме кажа:

— Што рабіць ты будзеш, мама,  
Як зняла ўжо і сарочку?  
— Буду загараць таксама  
Як усе тут на пясочку.

А дзяўчынка праз хвіліну  
Зноў пытаецца ўжо з плачам:  
— Ці гарэць ты ўжо павінна?  
Я агню яшчэ не бачу.

### ШТО КОЛЯ РАБІЎ У ШКОЛЕ

— Што рабіў у школе,  
Мілы мой сынок?  
— Мяне, — кажа Коля, —  
Ставілі ў куток.

— Напэўна, ты ўрокаў  
Не падрыхтаваў,  
Таму, абібоку,  
У кутку стаяў.

— Мама, я і тронікі  
Не засумаваў.  
Настаўнік да дошкі  
Больш не выклікаў.

### ЧАМУ ХОДЗІШ ТЫ З КІЁЧКАМ

Выйшаў дзедка з Васілёчкам,  
Мноства ў іх усякіх спраў.  
— Чаму ходзіш ты з кіёчкам? —  
Унучак раптам запытаў.

— Растлумачу табе, дзетка,  
Каб усё ты ведаць мог.  
Калі быў ты малалетка,  
Дык хадзіў на чатырох.

Калі акрыялі ногі —  
Моцна стануў ты на дзвюх.  
Прад табою ўсе дарогі,  
Іх ты пройдзеш, мілы друг.

А калі ўжо, Васілёчку,  
Састарэешся, тады  
Падапрэш такім кіёчкам  
Кволай старасці гады.

### ГАЛАВА НЕ ВАРЫЦЬ

У школе на ўроку  
Пачула Тамара:  
— Твая, абібоку,  
Галава не варыць.

Пайду запытаю  
Мілую матулю:  
Галава не варыць —  
Гэта ж не каструля.

А дома Тамары  
Матуля талкуе:  
— Галава не варыць —  
Розум не працуе.

### ЧЭШУЦЬ ЯЗЫКІ ЖАНЧЫНЫ

— Вось жанчыны брэшуць,  
брэшуць,  
Аж здзіўляюся сама.  
Языкі ўсё чэшуць, чэшуць,  
Паратунку ім няма.

— Хіба хлусіш, мая мама, —  
Адазваўся малы Сак. —  
Грэбнеў за іх губамі  
Я не ўгледжу аніяк.

**СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ**

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 23 жніўня а 18-й гадзіне.

# ШТО ЗА МЕСЯЦ, ШТО ЗА ЯСНЫ?

**Што за месяц, што за ясны, —**
**Уночы свеціць, а ўдзень не,**
**Што за міленькі дружочак, —**
**Калі прыйдзе, калі не.**

**Усе людзі, людзі кажуць,**
**Усе людзі гавараць:**
**— Сорам, дзеўка, сорам, красна,**
**Позна звечара гуляць.**

**Дзяўчыначцы кепска стала,**
**Стала плакаць ды ўздыхаць,**
**Хлапчыноньку шкода стала,**
**Стаў дзяўчынку суцяшаць.**

**— Не плач, дзеўка, не плач, красна,**
**Прыйду ў госці да цябе,**
**Разгарыцца кроў гарача —**
**Вазьму замуж за сябе.**





# НІЎКА



— 2000 год, а ў цябе ўсё тыя самыя праблемы.

### ЯК ЯГО ЗВАЦЬ?

— Як цябе зваць, мой хлопча?

— А так, як майго тату.

— А тату ж як?

— А так, як мяне.

— Ну, дык скажы, як цябе клічуць, калі час есці?

— О, мяне есці клікаць не трэба, я першым прыходжу.

### ВЫШЭЙШАЯ СФЕРА

У тэатры пані Задрыпкоўская шэпча мужу:

— Казя, глядзі! Гэты тып ля цябе спіць.

— І што з гэтага? — бурчыць пан Задрыпкоўскі. — Ці ж гэта прычына для таго, каб будзіць мяне!

### ЯК ПЯТРО АЖАНІЎСЯ

Сустрэліся два сябры.

— Ты ведаеш, Пятро ажаніўся!

— А ты не ведаеш як, — з разліку ці па любві?

— Жонку ўзяў з разліку, а грошы па любві.

### МІМА

— Прашу прабачэння, — звярнуўся ў ліфце малады чалавек да прыгожай дзяўчыны, — але я праз вас страціў спакой. Калі б вы ведалі, як я пакутую. Цэлымі начамі я хаджу па пакоі, як цень...

Дзяўчына апусціла вочы.

— Было б лепш, калі б вы ўсё гэта сказалі майму бацьку.

— Як?! Дык гэта ён уключае па начах праклятЫ магнітафон?!

**Маятнік і рады быў бы не хістацца, але становішча абавязвае.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Як выдаюцца кнігі сучасных класікаў?

— Залежна ад пасады. Чым вышэйшая пасада, тым цвярдзейшая вокладка.

*

Датчаніна, які адпачываў летам у глухой вёсцы, пачаставалі самагонкай. Выпіўшы чарку, ён паблядне́ў, пазелянеў і, з цяжкасцю пераводзячы дух, спытаў:

— Колькі ж градусаў у гэтым зеллі?

— Наконт градусаў, — сказаў гаспадар, — не ведаю. Але адной бутэлькі хапае на дванаццаць боек і адно забойства...

*

— Дарагі, ты будзеш вельмі мною задаволены. Я тры разы праехала на чырвонае святло, і ні разу мяне ніхто не аштрафаваў. На сэканомленыя грошы я купіла сабе тры новыя капялюшыкі.

### МІНІВЕРШЫ

Як піў, казаў ён: „Будзь здароў!"
Цяпер — ні дня без дактароў.

* * *

Піў на святы і з палучкі
І вось так дайшоў да ручкі.

**Я. Кудзеля**

### НОВАЯ ФОРМА АПЛАТЫ

Ля касы раптам гумарыст
Збялеў, нібы паперы ліст,
Бо заплацілі памылкова
Паўсмешна, а не парадкова.

**М. Карун**

### З „Весніка Задрыпоніі"

### ЯК СЯБЕ ПАВОДЗІЦЬ

(тэст)

Ці павінен джэнтльмен лічыць сябе адзінокім, калі ў яго толькі адна дама?

Ці павінен джэнтльмен бараніць даму ад самога сябе?

Ці павінен джэнтльмен праводзіць даму з гасцей, калі ён у гасцях у дамы?

Калі вы адказалі на ўсе пытанні, значыць, вы джэнтльмен, а калі не на ўсе, значыць, вы дама.



Пара абедаць!





— Любая, хачу цябе парадаваць: я кінуў курыць.

# Курёзы

### І ТУТ ТОЕ Ж САМАЕ!..

Перад Богам, як некаторыя цвердзяць, — усе роўныя. Але жыццё абвяргае гэту, пачэрпнутую з невераго́дных крыніц, інфармацыю, жыццё сведчыць, што нават сярод тых, хто быццам бліжэй ад нас з вамі да Бога прымасціўся, роўнасць не дужа ў модзе... Амерыканскі цэнтральны савет цэркваў апублікаваў даныя пра заробкі свяшчэннаслужыцеляў. Выяўляецца, што жанчыны, якія займаюць усялякія пасады ў царкоўнай іерархіі, атрымліваюць па 20-30 працэнтаў менш, чым мужчыны.

### ГЛЕДЗЯЧЫ НА ПАЛІТЫКУ...

Дробнага паштовага мюнхенскага службоўца Альфонса К. раптам звольнілі з пасады. Колішні прыймальнік пасылак успрыняў гэта не толькі як няшчасце, а і крыўду для сябе і, абурыўшыся, звярнуўся са скаргай да міністра поштаў Федэратыўнай Рэспублікі Германіі.

Лаводзячы, што ён пацярпеў нізашто, К. пішa, што ніколі не належаў да камуністычнай партыі, ніколі не браў удзелу ў маршах міру, а ўсяго толькі прысвоіў 15000 марак казённых грошай. Але ж гэта — не палітыка! І сапраўды, гледзячы на палітыку — ён беззаганны чалавек!




**Калі вы знайшлі з незнаёмым чалавекам супольную мову, агляніцеся, ці вы не ў буфеце.**